ГРАМАДЗЯНСКІЯ ІНІЦЫЯТЫВЫ

№6, ВЕРАСЕНЬ 2012

ВЫДАЕЦЦА З 1997 ГОДА

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

ИГНОР-2012

# Игнор-2012: результаты имитационной политики



Васіль ПАЛЯКОЎ

Начиная примерно с 2000 года, власти даже не пытаются придавать избирательной кампании видимость конкурентной борьбы за место в органе, который по первоначальному замыслу должен был стать законодательным.

Не исключение и последняя кампания по назначению отработавших «государству» верой и правдой чиновников и иных функционеров в Палату представителей. В результате 109 депутатов (из 110-ти) избрано уже в первом туре, и только коррупционный скандал в Гомеле не позволил заполнить еще одно место в так называемом парламенте.

Что будем именно так, то есть без вариантов и строго по списку вертикали, было понятно изначально. В силу этого имитационный характер политического процесса по-белорусски был раскручен по полной: власть делала вид, что проводит так называемые выборы, часть оппозиции и назначенцы от власти – что в них участвуют. Была, конечно, у оппозиции возможность работать по собственному сценарию, но как обычно этому что-то помешало. Справедливости ради, следует отметить, что попытки, и достаточно успешные, предпринимались отдельными политическими партиями и организациями. Здесь можно вспомнить ОГП с кампанией «За честные выборы без «Лукашенко», в рамках которой партийные спикеры заставили о себе говорить и реагировать. Цензура на выступления, изменения по ходу кампании правил игры Центральной комиссией по выступлениям доверенных лиц, массовое снятие кандидатов - внесли некоторое разнообразие в унылую скуку парламентской кампании. Достойно вышла из зарослей борщевика Ермошиной и партия БНФ, не позволившая использовать своих кандидатов в качестве декораций. Доставили властям беспокойство и организации, изначально заявившие о бойкоте.

Однако, все это было существенно ослаблено отсутствием единой стратегии демократических сил и, к сожалению, не стало частью жизни рядового белоруса.

Тем не менее, «игнор-2012» со стороны общества состоялся. Нельзя однозначно утверждать, что власть получила от возмущенного общества вотум недоверия.

>>> 2

| № участка | 4 | 6 | 11 | 14 | 15 | 19 | 20 | 21 | 23 | 26 | 32 | Всего |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| кол-во изб-лей | 1437 | 1452 | 2246 | 1678 | 2448 | 1845 | 2265 | 2086 | 2139 | 1522 | 1953 | 21071 |
| проголосовало по данным наблюдателей | 355 | 416 | 595 | 583 | 681 | 466 | 758 | 634 | 707 | 512 | 567 | 6274 |
| проголосовало по данным комиссии | 997 | 1022 | 1569 | 1217 | 1689 | 1287 | 1524 | 1518 | 1241 | 1095 | 1379 | 14538 |
| % по данным наблюдателей | 24,70% | 28,65% | 26,49% | 34,74% | 27,82% | 25,26% | 33,47% | 30,39% | 33,05% | 33,64% | 29,03% | 29,78 % |
| % по данным комиссии | 69,38% | 70,39% | 69,86% | 72,53% | 69,00% | 69,76% | 67,28% | 72,77% | 58,02% | 71,94% | 70,61% | 69,00 % |

1 <<<

Просто трезво оценивая и роль «депутатов» в политической системе Беларуси, и сущность самих «выборов», люди не стали тратить время на ерунду.

Подсчеты наблюдателей показали, что явка в спальных районах составила от 25 до 35%. Это процентов на 8-9 ниже, чем 4 года назад, когда наблюдатели зафиксировали явку на этих же участках от 33 до 44 %.

В разрезе участков (где нет общежитий) по одному отдельно взятому Гомельскому-Советскому округу № 34 это выглядит так, как показано в ***таблице на стр.1.***

Все наблюдаемые участки в округе (а их было 28), показали более высокую явку – 36,63% (но это со студенческими участками, где голосовать шли колоннами).

В этот раз обратило на себя внимание очень нервное поведение властей на всех этапах кампании. Например, удаление наблюдателей с участков в регионе последний раз было зафиксировано в 2000 году, а тут сразу несколько случаев в каждом наблюдаемом округе Гомельской области.

Такая нервозность объяснима, так как пустые участки – показатель отношения людей к власти и ее политическим махинациям. Тем более что политическое безразличие, как правило, перерастает в политическую активность против обанкротившейся власти.

**ЮБИЛЕИ**

# У Гомелі павіншавалі Алеся Бяляцкага з юбілеем



Грамадскія актывісты, журналісты і палітыкі сабраліся на вечарыну салідарнасці з палітзняволеным праваабаронцам Алесем Бяляцкім. 25 верасня яму споўнілася 50 гадоў.

Гомельская дэмакратычная супольнасць з гэтай нагоды прагледзела дакументальны фільм “Свечка праўды”. Прысутныя адзначылі, што сваю грамадскую дзейнасць Алесь Бяляцкі распачынаў у Гомелі.

Алесь Бяляцкі скончыў Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт, быў сябрам гомельскай краязнаўчай арганізацыі “Талака”, працаваў настаўнікам у Лельчыцкім раёне Гомельскай вобласці.

Леанід Судаленка распавёў, што гомельскія праваабаронцы з 10 верасня пачалі акцыю “Павіншую Алеся Бяляцкага”: “Было падпісана каля 50 паштовак, якія накіравалі ў калонію горада Бабруйска”.

На думку сябра БХК Віктара Адзіночанкі, “Алеся Бяляцкага не пасадзілі б, калі была іншая сітуацыя ў грамадстве”.

А вось праваабаронца Анатоль Паплаўны лічыць, што для хутчэйшага вызвалення Алеся Бяляцкага неабходна далучаць праваабарончую супольнасць Расіі. “Беларуская ўлада кантактуе шчыльна з расійскімі ўладамі. Таму ўплыў расійскага грамадства вынік бы даў не горшы, чым еўрапейскіх праваабаронцаў”, -- выказаў меркаванне Анатоль Паплаўны.

Алесь Бяляцкі – праваабаронца, віцэ-старшыня Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека, кіраўнік праваабарончага цэнтра “Вясна”. 4 жніўня 2011 года ён быў арыштаваны на падставе часткі 2 артыкулу 243 Крымінальнага кодэксу РБ — “утойванне прыбыткаў у асабліва буйным памеры”.

**Кацярына ЛОЙКА**

СПАДЧЫНА

# У вёсцы Мохаў Лоеўскага раёна закончыла работу **валанцёрская археалагічная экспедыцыя**

У вёсцы Мохаў Лоеўскага раёна закончыла работу самая вялікая ў рэспубліцы валанцёрская археалагічная экспедыцыя



Кожнае лета гэта вёска становіцца месцам сапраўднага паломніцтва людзей, якія жадаюць спасцігнуць таямніцы зямлі, зазірнуць за заслону часу. Школьнікі і студэнты, гісторыкі і краязнаўцы, маладыя археолагі цягнуцца сюды не толькі з розных куточкаў нашай бацькаўшчыны, але і з Украіны, Расіі, каб прыняць удзел у валанцёрскай міжнароднай археалагічнай экспедыцыі ГДУ імя Ф. Скарыны і Гомельскага абласнога аддзялення грамадскага аб'яднання «Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры». Пад кіраўніцтвам доктара гістарычных навук дацэнта Алега Макушнікава пачынаючы з 2003 года тут даследуецца ўнікальны помнік — Мохаўскі археалагічны комплекс.

Мохаў не адно стагоддзе стаіць на высокай тэрасе правага берага Дняпра. Каля сівых курганоў адкрываецца найпрыгажэйшы пейзаж гэтага краю: сярод шырокіх заліўных лугоў ззяе люстэрка двух азёр, якія пакінуў пасля сябе, крыху адышоўшы ўбок, Дняпро. Далей, за паваротам, магутная рака нясе свае воды ў мора-акіян. На процілеглым беразе растуць старыя высачэзныя дубы, якія, здаецца, сваімі кронамі дасягаюць аблокаў. Усё наваколле паблізу вёскі здаецца нейкім чароўным, загадкавым.

Вось і гэтым летам навукоўцы не абмінулі археалагічны комплекс — яны прадоўжылі даследаванне самага вялікага на тэрыторыі Беларусі сярэдневяковага курганнага могільніка. Палатачны лагер, дзе адначасова маглі размясціцца больш за 50 чалавек, быў недалёка ад месца даследаванняў. Побач з лагерам бруілася крыніца, якая частавала ўсіх студзёнай вадой, належным чынам падтрымлівала працу кухні.

Раніцай, пакуль сонца яшчэ не так моцна прыпякала, паснедаўшы, групы нястомных даследчыкаў выходзілі на свае аб'екты. Слой за слоем, асцярожна яны здымалі старажытныя напластаванні — вывучалі земляны летапіс. Кожны з іх ведае, што археалогія — гэта кніга, старонкі якой можна разгарнуць і прачытаць толькі адзін раз. Таму тут няма дробязей. У перапынках паміж працай хлопцы і дзяўчаты распавядалі адзін аднаму гісторыі аб вёсцы, якія пачулі і запісалі ад старых жыхароў Мохава. Шмат гэтых апавяданняў будзе пакладзена ў аснову будучых курсавых і дыпломных работ студэнтаў.

А пасля абеду ўсе адпачывалі, хаваючыся ад прамянёў сонейка ў цені вольх ды вербалозу. Пад вечар маладыя археолагі, узброіўшыся рыдлёўкамі ды іншымі спецыяльнымі інструментамі, зноў працягвалі чытаць земляны летапіс. Калі чырвоны дыск сонца ўжо вісеў над плотам вясковых агародаў, хлопцы і дзяўчаты збіраліся ісці ў лагер, а ўсе курганы, нават тыя, якіх не было відаць днём, нагадвалі аб сабе, пакідаючы невялікі цень.

Пасля доўгай і нялёгкай, але дужа цікавай і карыснай працы археолагі здымалі прыемную стому ў водах Мохаўскага возера. А пазней спяшаліся ў лагер, каб, падсілкаваўшыся, хутчэй прысесці каля вогнішча і спяваць

>>>4

3 <<<

славянскія песні. І ліліся яны паўсюль: па вёсцы, над курганамі, возерам, ракой…

У чым унікальнасць гэтага помніка, чым прываблівае вёска на Лоеўшчыне маладых навукоўцаў, якія едуць сюды з усёй рэспублікі і з-за мяжы? Гэта пытанне адрасую доктару гістарычных навук, нязменнаму кіраўніку экспедыцыі Алегу Макушнікаву.

— Мохаўскі археалагічны комплекс складаецца з гарадзішча, пасада і захоўвае рэшткі буйнейшага на Беларусі курганнага могільніка, — расказвае Алег Анатольевіч. — Раскопкі выявілі тут прыкметы развітай рамеснай дзейнасці, пахаванні рознаплемяннога, сацыяльна адасобленага ўзброенага насельніцтва.

Курганы Мохава паказваюць, што ў X — XI стагоддзях на гэтым месцы жылі выхадцы з паўночных, паўночна-заходніх раёнаў Усходняй Еўропы, верагодна, Паўночнай Еўропы. Магчыма, што гэты ваенны лагер быў арганізаваны кіеўскімі князямі для далучэння да старажытнарускай дзяржавы радзімічаў і дрыгавічоў. Гэта быў своеасаблівы паліцэйскі пункт. Трэба заўважыць, што аналагічных помнікаў у Беларусі больш няма, адзінкі засталіся ва Усходняй Еўропе. Вельмі важна захаваць Мохаўскі археалагічны комплекс для будучых пакаленняў.

Студэнтка Інстытута гісторыі, этналогіі і правазнаўства імя А. М. Лазарэўскага Чарнігаўскага нацыянальнага педагагічнага ўніверсітэта імя Т. Р. Шаўчэнкі Кацярына Калатуша ўжо другі год запар працуе ў беларускай экспедыцыі. І гэта невыпадкова. У сябе на Радзіме яна выконвае навуковы праект, у якім даследуе мохаўскія старажытнасці. Кацярына расказала, што з задавальненнем едзе сюды, каб далучыцца да грунтоўных навуковых даследаванняў, сустрэцца з людзьмі, якія сталі для яе сябрамі.

Для жыхароў Мохава самая чаканая пара года — лета, менавіта той час, калі ля вёскі пад бугром спыняецца археалагічная экспедыцыя.

— Выйдзем вечарам на вуліцу, сядзем на лаву і слухаем, як з-пад гары даносяцца песні студэнтаў, — расказвае карэнная жыхарка вёскі Матрона Афанасенка. — Днём гэтыя валанцёры, абавязкова, калі каму патрэбна, дапамогуць: дровы папілуюць, вады наносяць, адрамантуюць плот. Цяжка нам самім, у многіх дзеці далёка. А са студэнтамі добра і весела. Калі іх няма, вёска становіцца пустой, сумуе па іх. Закончылася экспедыцыя, ад'ехалі валанцёры. Але кожны з іх абяцае сабе, што абавязкова вернецца на гэтую святую зямлю. Вернецца да вытокаў, каб яшчэ раз пачуць гоман продкаў, зазірнуць за заслону часу.

**Вадзім Лось**

Гомельская правда
Фото: аўтара

# Сродкі масавай інфармацыі
## паведамляюць…

**03.09.2012**

**belta.by:** «В Минске и Светлогорске открыты кабинеты для семей, затронутых ВИЧ… Кабинеты комплексного оказания услуг семьям, затронутым ВИЧ, созданы, чтобы помочь ВИЧ-положительным людям и их близким решить психосоциальные проблемы. Они работают на базе городской детской инфекционной клинической больницы (Минск) и Светлогорской центральной районной больницы… Кабинет комплексного оказания услуг семьям, затронутым ВИЧ, - новый вид помощи, организованный в рамках гранта ГФ «Профилактика и лечение ВИЧ/СПИДа в Республике Беларусь - 2», исполняемого Программой развития ООН в сотрудничестве с Министерством здравоохранения».

**05.09.2012**

**gomelradio.by**: «В Железнодорожном районе Гомеля открыли мастерскую по прикладным видам искусства для людей с ограниченными возможностями. Гончарная мастерская для молодёжи появилась во дворце культуры предприятия «Випра». На базе центра социального обслуживания населения в Железнодорожном районе работает несколько кружков для детей-инвалидов. Они занимаются лепкой, рисованием, шитьём, бисероплетением и демонстрируют свои изделия на выставках. Сотрудники центра социального обслуживания населения говорят что творчество – одна из немногих сфер, где люди с ограниченными возможностями могут себя реализовать в полном объеме».

**06.09.2012**

**gp.by:** «7 верасня ў Гомельскім касцёле Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі адбудзецца прэзентацыя кнігі Уладзіміра Васькова "Каталікі на абшарах Панізоўя і Севершчыны. Гісторыя Гомельскага дэканата", выдадзенай у 2012 годзе. Манаграфія Уладзіміра Васькова — унікальнае выданне па гісторыі нашага горада і вобласці ў аспекце ўзнікнення і развіцця каталіцтва, аднога з асноўных накірункаў хрысціянства ў Беларусі… Глыбіня ведаў аўтара па тэме даследавання (якой пазайздросцяць і многія прафесійныя гісторыкі), а таксама форма і якасць пададзеных у ёй гістарычных матэрыялаў робяць яе адной з лепшых кніг па гісторыі Гомеля і Усходняй Гомельшчыны».

**08.09.2012**

**gomelradio.by:** «Научно-практическая конференция «Гомель: страницы истории» состоялась в ГГУ имени Франциска Скорины. Её проведение открыло программу мероприятий, посвящённых Дню города. Сотрудники вузов, музеев, общественных организаций, историки представили на конференции более 30 докладов. В работах учёных были рассмотрены все ключевые моменты развития нашего города: от эпохи Средневековья – до военных и мирных эпизодов XX столетия. По словам организаторов, учитывая достижения прошлого и изучая ошибки, легче решать проблемы дня сегодняшнего и строить будущее. Это и стало лейтмотивом конференции «Гомель: страницы истории».

АБРАДЫ

# Як гамяльчанкі шчасце шукалі

Яраслаў ШЫМКО





У філіяле Веткаўскага музея народнай творчасці маладзіцы падчас таямнічага абраду "Жаніцьба коміна" шчасце шукалі.

Сябры моладзевай краязнаўчай арганізацыі "Талака" разам з супрацоўнікамі Гомельскага філіяла "Веткаўскага музея" займаюцца рэканструкцыяй старадаўніх абрадаў нашых продкаў. Гэтым разам яны зладзілі сапраўднае народнае свята для ўсіх ахвочых і цікаўных. Дзяўчаты плялі вянкі і накрывалі стол стравамі з хатняй ежаю. Тыя, каму пашэнціла прысутнічаць на мерапрыемстве, змаглі не толькі ўбачыць увачавідкі ўнікальную дзею, але і далучыцца да містэрыі. Найбольшы ажыятаж сярод прысутных паненак выклікала гульня па зборы семак, рассыпаных "гаспадаром хаты" (маладым навукоўцам Пятром Цалкам) па падлозе. Паводле Пятра Цалкі, тыя дзяўчыны, якія сабралі найбольш семак, маюць сёлета найвялікшыя шансы стаць замужнімі.

Рытуал некалі быў распаўсюджаны менавіта на Гомельшчыне. У традыцыйным вясковым грамадстве "Жаніцьба коміна" з'яўлялася своеасаблівай падзеяй, якая падводзіла вынік палявым працам. Дбайныя гаспадары і гаспадыні пасля цяжкага сезону гаспадарчых работ рыхтаваліся да працы ў хаце.

Маршалак "Талакі" Марыся Тульжанкова заўважае, што ў архаічным сэнсе "Жаніцьба коміна" – гэта ўшанаванне хатняга агню. Пятро Цалка дадае, што ў зімовы час вакол коміна канцэнтравалася жыццё чалавека.

Матэрыялы абраду збіраліся краязнаўцамі падчас фалклорных экспедыцый у вёску Пагост Жыткавіцкага раёна.





# Семинары по... смехотерапии

**25.09.2012**

**gp.by:** «В Гомель по приглашению волонтерской группы «Funny nose» прибыла итальянская делегация из ассоциации «Viviamo in Positivo». В Гомеле до конца недели они планируют провести семинар по обмену опытом с белорусскими коллегами, а также ряд семинаров по смехотерапии, клоунотерапии, больничной клоунаде. В программе пребывания делегации значится посещение гематологического отделения для детей Республиканского научно-практического центра радиационной медицины и экологии человека, отделений детской хирургии и детской кардиологии Гомельской областной клинической больницы. Помимо этого, представители ассоциации планируют посетить городской центр коррекционно-развивающего обучения и реабилитации, а также провести тренинг по смехотерапии среди воспитанников школы-интерната поселка Улуковье».

СВЯТЫ

# Нефармальны Гомель у Дзень горада

**Ягор КОЎШ**



У Гомелі прайшоў другі “Фэст вулічнага мастацтва”. Калі ў мінулым годзе гарвыканкам выдзяліў для “Гомельскага Арбата” бульвар пасярод вуліцы Перамогі, то гэтым разам мастакі, вулічныя паэты, рамеснікі і музыкі атабарыліся каля сквера імя “місцера “ноў”-- Андрэя Грамыкі. Дакладней, пляцоўка для нефармальнага мастацтва была адведзеная непадалёку ад Гомельскага тэатра лялек.

Распачаўся фэст а палове на дзясятую раніцу. На імправізаванай сцэне была выстаўленая электраапаратура для музыкаў. Найбольш адметнымі сталі гомельскія гурты: блюзмэны з “Place to be” і беларускамоўная лацінджаз-група “Romeira”.

У перапынках паміж выступамі музыкаў публіку радаваў вулічны паэт Ягор Шамаль па псеўданіму “воблачны вож”, які перасыпаў жартамі, паэмамі Маякоўскага і ўласнымі вершаванымі радкамі.

Непадалёк ад сцэны ладзіліся майстар-класы па ірландскіх і індыйскіх танцах, выстаўляліся хэндмэйд-работы гомельскіх і мінскіх майстроў.

# СМІ паведамляюць

28.09.2012
kli4nik.info: «29 верасня ў Гомелі пройдзе другая за ўсю гісторыю горада выстава-кірмаш аўтарскіх вырабаў «Ручны цуд». З 11 да 20 г. у вялікай танцзале Гарадского цэнтра культуры (Ірынінская 16). Усе, для каго словазлучэнне hand-made — не проста два замежных слова, змогуць спаўна нацешыцца разнастайнасцю фарб, матэрыялаў, тэхнік і, вядома ж, фантазіі майстроў. Палімерная гліна, вязанне, дэкупаж, квілінг, роспіс, скрапбукінг, канзашы, аўтарскія цацкі - вось няпоўны спіс таго, што можна будзе ўбачыць, прымерыць, патрымаць і памацаць на выставе…».

28.09.2012
gomel.catholic.by: «С 1 октября в гомельском костеле начинаются традиционные встречи «Школа веры» для молодежи и взрослых. Настоятель храма приглашает верующих всех конфессий и даже атеистов. Здесь можно углубить свои духовные познания, найти ответы на интересующие вопросы о жизни Церкви. Также приглашаются те, кто хочет принять в католическом приходе таинства крещения и венчания, готовится крестить ребенка или стать крестным, а также те, кто желает исповедоваться и принимать в костеле Святое Причастие. «Школа веры» ждет и тех, кто не видит смысла жизни, кто одинок или имеет проблемы в семье, кто ищет свое призвание, встречи с Богом…».

19.09.2012
gomelradio.by: «22 сентября на территории Гомельской области будет проводиться международная акция «День без автомобиля», направленная на решение экологических проблем. Для тех, кто уже забыл, как можно передвигаться иначе, чем на личном (или персональном) транспорте, есть отличный повод размять ноги 22 сентября. В управлении Госавтоинспекции УВД Гомельского облисполкома рекомендуют заранее обдумать маршруты движения в этот день: воспользоваться общественным транспортом или велосипедом».



ЗНАХОДКІ

# Выбітную традыцыю народнага ткацтва даследуюць веткаўскія музейшчыкі

Сенсацыйнай знаходкай могуць пахваліцца супрацоўнікі Веткаўскага музея народнай творчасці імя Фёдара Шклярава. У Буда-Кашалёўскім раёне ім пашчасціла на свае вочы пабачыць унікальныя ручнікі — чорныя.

Зазвычай пры слове ручнік у галаве ўяўляеш белы і чырвоны колеры. У знаходках веткаўскіх музейшчыкаў узоры вытканыя чорным колерам па беламу.

Не сказаць, каб спецыялістаў здзівіў сам факт існавання такіх ручнікоў. Пра іх музейшчыкам ужо распавядалі ў Добрушскім раёне. Там іх называюць «чарнабрыўкі». Але тады давялося пра іх толькі чуць.

— Сенсацыя — гэта тое, што мы да гэтага часу можам такія рэчы знайсці, — кажа навуковы супрацоўнік Веткаўскага музея народнай творчасці Андрусь Скідан. — Да таго ж можна дадаць, што гэта выбітная ткацкая традыцыя згасла не так даўно, бо передалі нам ручнікі людзі, якія самі яшчэ іх ткалі. Чорныя ручнікі ўвогуле не вельмі частая з'ява ў нацыянальным ткацтве. Гэта водгук нацыянальнай традыцыі на традыцыю царкоўную.



— У Вялікі пост усе ўборы ў царкве мяняюцца на чорныя, — распавядае Андрусь Скідан. — А ручнікамі, як вядома, заведзена ўпрыгожваць абразы. Ручнік набыў чорны колер не так даўно: у пачатку дзевятнаццатага стагоддзя. Да гэтага часу абразоў у сялян не было. Наша знаходка дазваляе гаварыць пра цэлую лакальную ткацкую традыцыю, пра існаванне менавіта буда-кашалёўскіх ручнікоў. Прычым на Буда-Кашалёўшчыне існавала некалькі пластоў гэтай ткацкай традыцыі: больш старажытная і больш сучасная, якая дажыла да 60-х гадоў дваццатага стагоддзя, тады як на Добрушчыне, напрыклад, чорныя ручнікі перасталі ткаць яшчэ да вайны. Увогуле для буда-кашалёўскіх ручнікоў характэрны незвычайныя для беларускага ткацтва колеры. Тут выкарыстоўвалі, напрыклад, карычневую, сінюю, вішнёвую фарбы. Ну а чорны колер найбольш адметны, канешне. Цудоўна, што паўдзесятка тканін чорнага арнаментальнага чыну ўдалося набыць у музейныя фонды.

Музейная праграма «Выратаванне старажытных знакаў», згодна з якой спецыялісты праводзяць комплексныя экспедыцыі па раёнах Гомельшчыны, распачалася больш за дзесяць гадоў назад. У рамках праграмы музейшчыкі не толькі збіраюць ручнікі і адзенне, але і фіксуюць тое, што не прадаецца і не аддаецца, на фота, збіраюць банк дадзеных. У гэтым годзе вырашылі надаць пільную ўвагу мала даследаванаму да гэтага Буда-Кашалёўскаму раёну. Пабылі ў больш чым дзесяці населеных пунктах. Плануюць гэтую працу працягнуць. Мяркуецца, што вынікі даследавання будуць абагульнены ў выставу, прысвечаную Буда-Кашалёўскаму рэгіёну. Але адбудзецца гэта праз 2 — 3 гады, не раней.



*«Чорныя ручнікі ўвогуле не вельмі частая з'ява ў нацыянальным ткацтве. Гэта водгук нацыянальнай традыцыі на традыцыю царкоўную...»*

**Ирина Чернобай**

Фото: Олега Белоусова

gp.by

ТВОРЧАСЦЬ

# Гомельская «Фота-Сушка»: як гэта было…

Марына ДРАБЫШЭЎСКАЯ

Тое, што я пабачыла, калі прыйшла на гомельскую "Фота-Сушку", падавалася мне казачным: на вяроўках, прывязаных да дрэваў за прышчэпкі, было падвешана шмат каляровых здымкаў, якія разьдзімаліся на хвалях ветру, а навокал шмат людзей з фотакамерамі ў руках (нават падавалася, што замест рук) – прыгажосьць. Гэта была першая "Фота- Сушка" ў Гомелі і мне стала цікава, адкуль з'явілася такая ідэя і якія мэты ў такога мерапрыемства.

Віталь Печкуроў (адзін з арганізатараў):

- Ідэя фотасушкі прыйшла да нас з Піцера. Некалькі жыхароў Пецярбурга, а менавіта Андрэй Кезін і Вольга Луветаў, прыдумалі гэты праект і першапачаткова ён праводзіўся ў звычайных піцерскіх дворыках і выглядала гэта ўсё вельмі-вельмі сымпатычна. Першая сушка ў Менску адбылася напачатку лета.Я на ёй прысутнічаў - дапамагаў у арганізацыі. Там было каля шасьціста чалавек – у асноўным фатографы. У нас жа сёньня наадварот, больш людзей, не звязаных з фатаграфіяй. У свой час я выпадкова знайшоў суполку ў кантакце "Практыкум па фатаграфіі ў Менску". І вось я стаў сачыць за падзеямі суполкі, камунікаваць з іншымі фатографамі і так даведаўся пра "Фота-Сушку". Мне вельмі спадабалася, і захацелася зрабіць такое ў Гомелі. Менскія арганізатары пагадзіліся дапамагчы. Адзін з маіх сяброў пазнаёміў мяне з Вадзімам Міцюрнікавым, які, у сваю чаргу, дамовіўся з аддзелам культуры, каб нам дазволілі і дапамаглі правесьці мерапрыемства. Інфармацыя пра фотасушку распаўсюджвалася праз сацыяльныя сеткі: я шукаў фатографаў Гомеля ўсімі вядомымі мне спосабамі і рассылаў ім запрашэнні ў суполку "Фота-Сушкі". Па канчатковых дадзеных удзельнікі прынеслі больш за шэсьцьсот фотаздымкаў, а колькасьць удзельнікаў і гледачоў вельмі цяжка падлічыць. Я думаю, што мерапрыемства выклікае ў людзей пазытыўныя эмоцыі, бо тут можна паглядзець на сучасныя павевы ў фатаграфіі, а таксама знайсьці аднадумцаў, альбо зацікавіцца фотамастацтвам. Я пачаў цікавіцца фатаграфіяй абсалютна выпадкова: адна знаёмая дзяўчына дала мне ў рукі фотаздымач і сказала: "У цябе рукі не калоцяцца – будзеш мяне здымаць." Гэта было 5 год таму. З тых пор я сапсаваў шмат плёнак і пачаў актыўна займацца фатаграфіяй. Больш прафесійным маё хобі стала два гады таму, калі я набыў сабе добры здымач. Зараз для мяне фатаграфія – гэта спосаб самавыяўленьня, гэта больш для душы.

Славяна Курыліна (сушкасябра):

- Сёньня людзі сабраліся на гэтым мерапрыемстве, каб паказаць сябе і паглядзець на іншых. Я думаю, што гэта цудоўная ідэя, бо ў Гомелі шмат таленавітых фатографаў. У будучыні нам хацелася б стварыць нейкую арганізацыю, каб не бадзяцца проста са здымачамі, а быць часткай цэлага, часткай гомельскай фотасупольнасьці.



Таму сёньняшняя "Фота-Сушка" накіраваная на тое, каб выявіць таленавітых фатографаў і сабраць іх разам. Асабіста я на гэтым мерапрыемстве выконваю ролю валанцёра: я сачу, каб людзі сапраўды мяняліся фотаздымкамі, а не проста прысабечвалі, я развешваю фота і таксама я прынесла сюды свае працы.

Яўгенія Юшчанка (глядачка):

- Я лічу, што "Фота-Сушка" павінна зьвярнуць увагу на сучаснае мастацтва, якім з'яўляецца фатаграфія. Я вельмі жадала паўдзельнічаць, але я студэнтка і ў мяне не хапіла грошаў на раздрукоўку здымкаў, таму я ўсяго толькі глядач гэтага мерапрыемства. Наогул, я таксама цікаўлюся фотасправай, люблю здымаць усялякія нечаканыя моманты, прыроду, жывёлаў, людзей. Мая фотадзейнасьць пачыналася з таго, што мне далі фотаздымач і загадалі здымаць свята. Я не прафесіянал і лічу, што добры здымак можна зрабіць і на мыльніцу. Галоўнае, каб у чалавека было адчуванне прыгажосьці і моманту.

Вячаслаў Назімка (удзельнік):

- Я прыйшоў сюды ў якасьці ўдзельніка і павесіў адзінаццаць сваіх здымкаў. Тут вельмі цікава знаходзіцца, цікава паглядзець чужыя фотаздымкі, каб штосьці з іх для сябе падкрэсліць. Тут вельмі пазытыўная атмасфера, а таксама вельмі цікава назіраць за рэакцыяй людзей на свае здымкі. Я лічу, што "Фота-Сушка" накіраваная на прапаганду фотамастацтва, а таксама тут можна зрабіць сабе добрую рэкламу. "Фота-Сушка" - гэта гучная спроба гомельскіх фатографаў заявіць пра сваё існаваньне. Для мяне фотасправа пачалася з таго, што год таму я набыў сабе здымач і каб ня класьці яго на паліцу я паставіў перад сабой мэту рабіць хаця б адзін здымак на дзень. І вось ужо цягам васьмі месяцаў я раблю як найменьш адзін здымак на дзень. Гэта мне дапамагло дамагчыся таго, што я зараз умею.

Мерапрыемства "Фота-Сушка" выклікала шмат абсалютна розных меркаваньняў і водгукаў у Інтэрнэце і арганізатары паабяцалі ўлічыць усе плюсы і мінусы да наступнай – ужо зімовай - "Фота-Сушкі". Але сам факт рэакцыі людзей на мерапрыемства ўжо сьведчыць пра яго папулярнасьць.



ИНФОРМАЦИОННЫЙ БЮЛЛЕТЕНЬ

Учредитель и редактор Василий ПОЛЯКОВ
А/я 28, 246003, Гомель. E-mail: vpalia@tut.by. Тираж 299 экз.
Отпечатано на личном оборудовании. Распространяется бесплатно.